Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі.
1 радок за тэкстам 2 рублі.
З безработных за ўсю абвестку 2 рублі.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — **Востра-Брамская, № 9** — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

**Год I.** **Вільня, Пятніца 23 мая 1919 г.** **№ 12.**

## БЕЛАРУСКІ СХОД.

**У нядзелю 25-га мая, у 5 гадзін па палудні адбудзецца**

беларускі сход. Сход склікаецца Беларускай Радай у залі Рады (там, дзе Беларуская гімназія) на Востра-Брамскай вул., № 9 (Сьв. Троіцкі манастыр.)

ПРАГРАМА СХОДУ:

1) Беларусы і агульна-палітычнае палажэньне.
2) Арганізацыя і выбары Беларускага Нацыянальнага Камітэту м. Вільні.
3) Разьвіцьце коопэратыва і профэсыянальных саюзаў сярод беларусаў.
4) Бягучыя справы.

**На сход запрашаюцца усе беларусы-жыхары м. Вільні.**

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калічка часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— ніхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

### Беларуская Рада

памяшчаецца на Востра-Брамскай вул. д. № 9.

Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.

Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

### СКЛАД БЕЛАРУСКАЙ ЛІТЭРАТУРЫ

**ЗАВАЛЬНАЯ, № 7.**

## Да беларускага сходу.

У нядзелю 25-га мая беларусы м. Вільні зьбяруцца на сход, каб пагаманіць аб розных сваіх справах і арганізавацца у палітычных і эканоміцкіх адносінах.

Німа спрэчкі, што перабываемы момэнт пільна вымагае згуртаваньня і арганізаваньня. Калі пасловіца „адзін у полі не ваяка“ усягды была жыцьцёвай, дык цяпер—утройчы. Толькі арганізаваны, цесна згуртаваны людзкі коллектыў мае сілу, каб уплываць на жыцьцё у жаданым яму кірунку; параськіданы жа шум хваль жыцьцёвага мора нікім не бывае уцямлены і астаецца „гласам вапіючага ў пустыні“.

Беларусы ня могуць пахваліцца сваім арганізаваньнем, асабліва ў адносінах нацыянальнай правасьвядомасьці. Мы ня будзем тут казаць аб народных масах, блізка што усюдых—навет у З. Эўропе—адзначаных вялікшай ці мяньцэйшай ступеньню політычнай пассіўнасьці. Нас цікавіць інтэлігенцыя (у самым шыршым змыслу слова)—гэтая костка і цела народнае. Пры умовах звычайнага політычнага жыцьця інтэлігенцыя запрошана мець выдатную роль будаўнічага, дойліда гэтага жыцьця.

Перабываемы політычны крызыс, што пяруном разьбіў „усерасейскую“ інтэлігенцыю на абшару блізка што усяе Расейскай Імпэрыі, даволі красамоўна кажа за тое, што „усерасейская“ інтэлігенцыя была дрэнна з'арганізаваная і, як той казаў, слабенька сшытая. Усё, што было дужага у гэным „усерасейскім“ комплоце, хапілася організавацца у нацыянальныя ячэйкі і павяло змаганьне з бальшавіцкім разбойствам, захаваным пад мазку інтэрнацыяналізма. Праца нацыянальных згуртаваньняў мае найлепшыя рэзультаты. Адно за адным на громаздзе пабітага глінянага колосса вынікнулі народныя гаспадарствы, абвесьціўшыя незалежнасьць. Фінляндыя, Польшча, Літва, Латвія, Эстонія, Украіна, Грузія і г. д. — усе яны цяпер ці будуюць ужо сваё незалежнае істнаваньне, ці збудуюць яго у недалёчкай будучыне, калі палепшаюць ад хваробы на бальшавізм.

А што ж будзе з Беларусьсю?

Ці ёсьць шанцы на тое, што яна станець незалежным гаспадарствам?

На гэтае пытаньне двух адказаў быць ня можа.

Напэўна, станець.

Калі сьвет не перавернецца дагары нагамі, калі ідэі Entent'а аб самаазначэньню народаў не памруць, дык і Беларусь, не пазіраючы на яе цярноўны шлях у прошласьці і труды цяпершчыны, станець незалежнай дзяржаваю.

Незалежнасьць беларускага народу і непадзельнасьць яго тэррыторыі—вось два грунтоўных станові́шчы, за каторыя ніхто, здаецца, не сьпіраецца цяпер, за выключнасьцю хіба тых, хто усё яшчэ хварэе у нас ці на маскоўства, ці на польскасьць, ці на ліцьвінства.

Гэтыя людзі прызвычаіліся, як вол да ярма, падлегаць абы-каму панявольніччу і ня мысьляць для сябе і для свайго народу незалежнага істнаваньня.

Беларускі сход 25-га мая павінен будзе даць свой адказ на пытаньне, чаго хочуць віленскія беларусы: падлеганьня суседзкім народам ці незалежнага істнаваньня.

І мы не сумлеваемся, што голас віленскай беларускай інтэлігенцыі вызначыцца ў арганізаваным аднадушным вымаганьню: незалежнасьці і непадзельнасьці нашай дарагой Беларусі.

Няхай жа жыве незалежная і непадзельная Беларусь!

**Лук—аш.**

# PRO DOMO SUA.

(Аб нашых адносінах).

Змучаны вайною, аграблены немцамі, даведзены да страшнага голаду беларускі народ нічога больш не жадае, як спакою і добрых варункаў для творчай працы пры будаваньні сваёй сьветлай і шчасьлівай будучыні.

І мы, прадстаўнікі беларускага народа, нічога больш не жадаем, як спакою і можнасьці працаваць для нашага народу.

Адозва Глаўнага Камандуючага польскіх войскаў пана Язэпа Пілсудзкага была прынята намі шчыра і з добрай надзеяй, што усё сказанае ў адозве будзе праведзеным у жыцьцё цьвёрда і моцна, у чым асоба Глаўнага Камандуючага служыць нам моцнай гарантыяй.

Тымчасам адозва польскіх кансэрватыстаў, разьлепленая у нейкі час пасьля, абліла халоднаю вадою больш гарачыя энтузіястычныя галавы нашых беларусаў. Адозва гэтая, выступаючы глаўным чынам процiў асобы пана Язэпа Пілсудзкага, прымусіла нашых палітычных дзеячоў да халоднай ацэнкі палажэньня і да трыманьня сябе у рэзэрве.

У-сьлед за тым прыйшоўшае зьдекаваньне над беларусамі, выступленьня чорнай прэссы, як „Dziennik Wilenski“, вызвало у беларусаў зусім зразумелы тон, каторы хоць і у слабай форме, але мусіў выліцца у адзінай пакуль што беларускай газэце у Вільні.

Чорная рэакцыя, якая запанавала у Вільні, страшэнне падарвала веру і добрую надзею нашых дзеячоў, якія кіраваліся да згоды, лучнасьці і справядлівага разьбіраньня усіх спрэчных, а значыцца пякучых і балючых спраў.

Мы заяўляем шчыра, што ня хочам нацыянальнай грызьні, каторая нікому карысьці не прынясе, наадварот—ад душы жадаем стварэньня паміж усімі нацыянальнасьцямі края такіх абставін, каторыя зараз жа далі б можнасьць прыступіць да працы дзеля паразуменьня і тварэньня новага жыцьця.

Знаходзім, што увагі аб «Беларускай Думцы» шаноўнай газэты „Nasz Kraj“ ня зусім справядлівыя. Газэта піша, што стацьці, у каторых відаць непрыязьнь, зласьлівасьць і вузкі палітычны кругазор нашых фэльетоністаў, падбухторываюць узаемныя анімозы, а сваім танным „шыдэрствам“ шкодзяць грамадзкай краёвай справе, для каторай канешне патрэбна добрая воля.

С тым, што ад злосьці бывае шкода грамадзкай справе, мы згаджаемся, адзначаючы, аднак, што нацыянальнага цкаваньня („jątrzenia“) у нас ня было і ня будзе, бо мы не... хрысьціянскі „Dziennik Wileński“, і закіды аб нідахваце у нас добрай волі, а так сама аб непрыязьні—несправядлівыя.

Мы ведаем, што згода і узаемныя добрыя зносіны наступіць мусяць і што яны наступяць.

Калі-б газэта „Nasz Kraj“ магла хоць на колькі хвілінак стаць на пункце беларусаў і глянуць з беларускага пункту на усё акружаючае беларусоў цяжкое жыцьцё, яна-б зразумела усе стацьці і фэльетоны „Беларускае Думкі“ і не паставіла б нас нараўне с гэтакай чорнасотніцкай газэтай, як „Dziennik Wileński“.

Вось мы і хочам прыступіць да перагавораў, прыймаем выцягнутую да нас—верым, што братнюю—руку і маем добрую волю прыступіць супольна да будовы новага лепшага жыцьця. Уважаем перад усім толькі, што крыўды, зробленыя нам ужо, павінны быць папраўлены.

З гэтых крыўдаў, мэморыял, аб каторых падасьць ўласьцям Беларуская Рада, пазволім сабе некаторыя вылічыць, веручы, што урад пастараецца дзеля агульнай згоды і можнасьці працы папраўіць іх і аддаць гэтым самым забыцьцю.

I. *Беларускія рукапісы*. Рукапісы знаходзіліся у б. бальшавіцкім Камісарыяце Асьветы і мелі быць друкаваны. Друк быў пачаты і цяпер друкаваць далей без рукапісаў нельга. Беларусы прасілі пана камісара Осмолоўскага, каб пазволіў зібраць з кватэры Камісарыята Асьветы дадзеныя туды беларускія кніжкі і рукапісы для друку. Пан Осмолоўскі вельмі прыхільна аднёсся да гэтага і даў ліст да пана Яна Пілсудзкага. Прадстаўнік беларусаў быў у пана Пілсудзкага з лістом ад пана Осмолоўскага і прасіў выдаць рукапісы. Пан Ян Пілсудзкі адказаў: „Я нікога пусьціць у Аддзел Асьветы не магу“. Прадстаўнік беларусаў абразіўся гэткім адказам і выйшаў.

Пасьля шмат хто з беларусаў хадзіў на Вялікую вул. 54, дзе быў Камісарыят, але усё дарма. Толькі нядаўна удалося атрымаць ад загадчыка будынку Камандатуры рукапіс беларускага слоўніка дый то з бракуючымі карткамі, вымагаючымі новай даўгой працы.

Прапалі: бязцэнны для беларусаў зборнік рукапісных вершаў лепшага сучаснага беларускага паэта Янкі Купалы, рукапісы школьных кніжак, рэдкія кніжкі, дадзеныя для перадруку, і некаторыя іншыя брашуры і клішэ.

II. *Беларуская бібліотэка*. У базыліянскіх мурох асталася пасьля Духоўнай Сэмінарыі бібліотэка, аддадзеная юрыдычна разам з мурамі і усёю маемасьцю б. Сэмінарыі беларускаму Камітэту. На гэта маем паперу. У часе бальшавізма апечатаў бібліотэку пастаўлены бальшавікамі рэквізытарам культурных і гістарычных памятак пан доктар Іонас Басановіч.

Цяпер ізноў нашу бібліотэку апечатаў „вядомы у Вільні“ пан Вацлаў Студніцкі. Бібліотэка найхутчэй павінна быць аддадзена нам.

III. *Справа арыштаў беларусаў*. Найбольш непрыемнай і вызываючай непрыязьнь і немагчымасьць згоды—гэта справа арыштаў беларускіх дзеячоў. Усіх, каго арыштуюць, вінавацяць у бальшавізму. Рэвізыі і арышты ніякага рэзультата не далі, бо даць яго не маглі. Рэзультаты былі заўсягды непрыемнымі для беларусаў: рэквізыцыя грошы і безпатрэбнае трыманьне у арышце пры кепскім кармленьні.

Якая мэта была панам „канаркам“ арыштаваць сябра Рады, беларускага дзеяча Яна Станкевіча? Што яны з гэтага скарысталі?

А ўражэньне на беларусаў гэты арышт зрабіў прыгнятаючае!

За што трымаюць на Лукішках беларускага грамадзяніна пачтавіка А. Карабача?

Чаму арыштаваны быў колькі разоў Павал Вашкевіч, сябра беларускае нацыянальна-дэмакратычнае партыі і чаму яго абдзёрлі з ботаў, вопратак і 2.400 рублёў грошы (ёсць сьведкі)?

Чаму арыштоўвалі нашых вучыцялёў?

Ня ужо-ж начальства не адпаведае за учынкі сваіх людзей, каторых пасылаюць з рэвізыямі?

Якім правам паны „канаркі“ забралі штандар „Беларускае Соцыялістычнае Грамады“?

Гэты штандар мусіць быць звернены партыі!

IV. *Справа беларускага клюба*. Якім правам у беларускі клюб уваходзяць чужыя людзі у „форме

польскіх легіонэраў“ (!), перашкаджаюць сабраным людзям, і якім правам вымагаюць, каб напіс „Беларускі Клюб“ быў польскімі літарамі і каб у салі беларускага клюбу былі польскія арлы?

V. *Справа беларускай кнігарні.* Чы мае права віленская міліцыя ці паліцыя вымагаць зняцьця вывескі па-беларуску „Беларуская кнігарня“, даводзячы, што яна напісана рускімі літарамі і павінна быць зьменена на польскія літары?

Ня хочам вылічаць усіх фактаў уціску чорнай віленскай рэакцыі, тым больш, што афіцыяльна зробіць гэта Беларуская Рада, мы вылічылі толькі найбольш для нас важныя культурна і асабіста несправедлівасьці, каторыя нам баляць і вызываюць шкодны непатрэбны дыссонанс у агульных адносінах.

Мы верым, што прадстаўнікі польскага ураду шчыра пастараюцца, каб аддаць у забыцьцё гэтыя вышэйпаказаныя крыўды і дадуць нам гэтым можнасьць прыступіць да агульнай працы дзеля дабра цэлага Краю!

Гэтага мы шчыра пажадаем і на гэта мы чакаем!

**Юры Олельковіч.**

# З польскіх газэт.

Карэспандэнт „Gazety Polskiej“ між іншым піша з Парыжа:

„Цяперашні мірны конгрэсс высунуў на першы плян ідэйны штандар харошага прынцыпу права самазначэньня народаў.

У першы чарод з гэтым прынцыпам лічацца прадстаўнікі вялікіх гасударств Антанты.

У нас на жаль, ня толькі прэсса, але нядаўна польскі сойм, кажучы свае слова аб літоўскай справе, ня рахаваўся з гэтым прынцыпам, але імпэрыялістычным способам дамагаўся анэксыі літоўскіх зямель.

Німа дзіва, што рада трох у апошні час разгледзіла літоўскае пытаньне. Рэзультат гэтае працы гэтакі, што рада трох паслала прадстаўнікам польскае конфэрэнцыі паперу з асьцярогай, каб не было польска-літоўскага непаразуменьня, дзеля таго што ніякія ўсьпехі адважнае польскае арміі ня могуць разрашаць пытаньня аб усходніх польскіх граніцах. У гэтакім прыпадку не аружжа, а прынцып самаазначэньня павінен рашаць аб гасударственай прыналежнасці літоўскіх зямель.

Пастаноўка літоўскае справы праз камэнданта Пілсудзкага не дае заграніцы магчымасьці вінаваціць Польшчу ў імпэр'ялізме. Пілсудзкі наперад не разрашае ні справы істнаваньня незалежнае Літвы, ані прыналежнасьці Горадні і Вільні да Польшчы, але дае літоўскаму народу магчымасьць выявіць сваю волю за уньяй с Польшчай і наагул пастанаўляць аб сваім лёсе.

Пастанова Сойму аб неадкладнасьці зусім інакшага праэкту—гэта лёгкадумны і неразумны палітычны крок. Бо тутка сьцямілі пастанову польскага Сойму гэтак, што Польшча хоча раз на заўсёды вычыркнуць справу уніі дый апрача таго не даць магчымасьці істнаваньня літоўскае дзяржавы, дзеля таго што бяз Горадні і Вільні—Літва ня можа утварыць гасударства.

Гэтакія праэкты могуць прынесьці нейкую карысць той ці іншай партыі, але ніколі ня будуць карысны для усяго народу.

Калі Сойм, маючы права прамаўляць ад імі польскага народу, хацеў зрабіць пастанову ў літоўскай справе, мог ён гэта зрабіць інакш, праявіўшы палітычную дасьпеласьць. Ен ня меў права забегаць уперад, дык-жаж Літва сама магла сказаць аб сабе датычна свайго дзяржаўнага быту пасля адозвы Дзяржаўнага Начальніка, магла ўзнавіць пекную традыцыю польска—літоўскае уніі.“

З гэытх слоў ды іншых друкаваных не раз у „Бел. Думцы“ з польскіх газэт, мы бачым, што частка польскага грамадзянства, якая стаіць на становішчы вольнага самаазначэньня нашага Краю, вядзе няўстанную барацьбу з анэксыёністычнымі плянамі блізарукай польскай эндэцыі.

Пакуль ідзе гэтакая барацьба, мы можам толькі спагадаць лепшай частцы польскага грамадзянства, і пакуль вялікшасьць у польскім сойме будзе казаць аб прылучэньні да Польшчы без нашай волі і згоды „усходніх зямель,“, мы павінны сказаць, што справа згоднага жыцьця роўных з роўнымі адсоўваецца на даўжэйшы час, бо мы баімся, каб ня былі: вольныя і паднявольныя

# Пілсудзкі аб нас.

Карэспандэнт „*Journal des Debats*“ гутарыў з п. Язэп. Пілсудзкім у справе літоўска-беларускай. Дзяржаўны Начальнік сказаў, што паводле яго думкі, жыхары гэтай старонкі павінны самі паставіць аб сваёй долі. „Я хачу, — сказаў ён, — дапамагчы насяленьню выявіць сваю волю. Дзеля гэтага, замест вайсковага ўраду, я наладзіў у Вільні ўрад цывільны“.

Далей п. Я. Пілсудзкі сказаў:

„На мой пагляд — палякі і беларусы маглі-б згаварыцца вельмі лёгка. З ліцьвінамі справа цяжалейшая. Дык ўсё-ж-такі трэба даць магчымасьць насяленью свабодна высказаць, чаго яно хоча“.

Датычна Вільні польскі Глаўнакамандуючы сказаў:

„Вільні дамагаюцца ўсе. Яна дзеля гэтага можа зрабіцца крыніцай нязгоды. Але, калі ўдасцца даць палітыцы адпаведны кірунак, — Вільня вось можа зрабіць згоду“.

„Разрашэньне, якое я прапаную, кіруецца вось да гэтага, каб з Вільні зрабіць вузел злучнасьці, а ня крыніцу нязгоды“...

## Праф. Масоніус.

Варшаўскія польскія газэты пішуць аб сьвяткаваньні памяці прафэсара Мар'яна Масоніуса вучонымі Акадэміі.

Справа ў тым, што у Варшаве пашырана вестка аб разстрэляньні прафэсара Масоніуса бальшавікамі.

Да гэтага часу мы ня маем аб гэтам ніякіх вестак, бо усе людзі, якія прыехалі з Менска у Вільню, нічога пра тое ня ведаюць.

Прафэсар Мар'ян Масоніус выкладаў улетку 1918 года на курсах беларусазнаўства гісторыю беларускай мовы; лекціі яго былі заусёгды пры перапоўненай салі; асоба прафэсара і яго выклад па беларуску выклікаў агульнае зацікаўленьне ня толькі адных беларусаў.

Прафэсар Масоніус (родам з Навагрудчыны) публічна заявіў сябе у Менску беларусам, што выклікала шалёнае абурэньне менскіх польскіх народных дэмократаў.

Дзякуючы немагчымым адносінам да прафэсара Масоніуса, вельмі заслужонага у польскай навуцы, жыцьцё яго у *Менску* было аднэй сьцежкай напасьцяў і перашкод у пэдагогічнай працы.

Дзеля таго у восені 1918 года прафэсар Масоніус перабраўся у Несьвіж, як дырэктар гімназыі, пакінуўшы такое-ж месца у Менску.

Новы заступнік прафэсара Масоніуса, нейкі пан Тадэуш Блажэевіч пры першай вестцы, што немцы аддадуць Менск бальшавікам, так спудзіўся, што кінуў гімназыю без апекі і скарэй уцёк у Варшаву.

Прафэсар Масоніус астаўся на месцы у Несьвіжы, праз бальшавікоў быў назначаны афіцыяльна апякуном архіва і бібліотэкі у замку князёў Радзівіллаў.

Апошнімі яшчэ часамі беларусы прапанавалі прафэсару Масоніусу заняць катэддру у арганізаваным унівэрсытэці у Менску.

Маем надзею, што весткі аб сьмерці прафэсара Масоніуса няпраўдзівыя і што яго праца для нас, беларусаў, ня уцерпіць шкоды.

**Стары варшаускі вучань праф. Масоніуса.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Немцы і коаліцыя.

У Бэрліне ды інш. местах былі маніфэстацыі проціў коаліцыі. У Гамбургу перад гасьцініцай „Atlantic,“ дзе кватэруе амэрыкансая камісыя, была гэтакая вялізарная варожая для коаліцыі маніфэстацыя, што маніфэстантаў устрымала толькі аружная сіла.

У зьвязку з гэтым глаўнак. Фош езьдзіў на надрэйнскі фронт, каб ведаць, што рабіць, калі-б немцы не падпісалі мірнай умовы.

